Намінальны (да выплаты падаткаў) налічаны сярэдні заробак у Беларусі ў кастрычніку склаў 1123,4 рубля, паведамляе Белстат. У верасні сярэдні заробак складаў 1108,5 рубля.

*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 93 (4448)**

26 лістапада 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАД ГРАДУСАМ

### Асцярожна, галалёд!

На сёння сіноптыкі прагназуюць зранку слабыя туман і галалёд. Днём – -3...+3°С.

У сераду 27 лістапада ў асобных раёнах краіны чакаецца мокры снег і дождж, а таксама слабыя туман і галалёд.

Уначы тэрмометры пакажуць ад -8°С па ўсходзе да +1°С па паўднёвым захадзе. Удзень прагназуецца -2...+5°С.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ




## Гэта тая старонка нашага сумеснага мінулага, якую мы павінны шанаваць і якая нас аб'ядноўвае зараз і ў будучыні

*Выступленне намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь **Ігара Петрышэнкі** на цырымоніі пахавання парэшткаў кіраўнікоў і ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў*

Вашы Экселенцыі, шаноўнае спадарства!

Сённяшняя цырымонія – гэта сапраўды гістарычны момант, аднолькава важны для беларускага, літоўскага, польскага, украінскага і латышскага народаў.

Падзеі тысяча восемсот шэсцьдзясят трэцяга – тысяча восемсот шэсцьдзясят чацвёртага гадоў, якія закранулі тэрыторыі адразу некалькіх дзяржаў Усходняй Еўропы, адбываліся і на нашых землях. Большасць асоб, якім мы сёння аддаём даніну памяці, з'яўляюцца сынамі беларускай зямлі, звязанымі з ёй агульным лёсам.

Для беларусаў гэта не толькі ўспамін мінулага, але і – што нават больш важна – магчымасць аддаць належную пашану нашым продкам, спачыўшым на гэтай зямлі.

Дзейнасць Кастуся Каліноўскага звязана з перарастаннем беларускага нацыянальна-культурнага руху ў барацьбу за беларускую дзяржаўнасць у форме народаўладдзя. Ужо ў той час дэкларавалася ідэя аб палітычнай суб'ектнасці Беларусі ў адносінах з краінамі-суседзямі. Знакава, што паролем паўстанцаў Кастуся Каліноўскага з'яўляліся словы: "Каго любіш? – Люблю Беларусь!".

Запаветы змагароў не страцілі актуальнасці і знайшлі працяг у галоўным дэвізе нашай краіны "За моцную і квітнеючую Беларусь", у нашай працы па стварэнні дзяржавы для народа.

Асоба Каліноўскага назаўжды ўпісана ў гісторыю Беларусі, як і падзеі паўстання дзевятнаццатага стагоддзя.

Памяць аб ім увекавечана ў нашай краіне. У Свіслачы, дзе ён вучыўся, у творах беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, скульптараў, у назвах вуліц беларускіх гарадоў, школ, а таксама ў мастацкіх стужках, паштовых марках і нават партызанскай брыгадзе, якая вызваляла беларускі край падчас нацысцкага нашэсця.

Калі літоўскія навукоўцы яшчэ ў дзве тысячы сямнаццатым годзе выказалі здагадку пра тое, што знойдзеныя парэшткі могуць належаць удзельнікам паўстання, наша краіна ўключылася ў працэс па іх ідэнтыфікацыі па дыпламатычнай, навуковай, гістарычнай і следчай лініях.

Беларусь і Літва абмяняліся адмысловымі візітамі працоўных экспертных груп.

Беларуская мова прысутнічае ў афармленні мемарыяла, дзе будуць пакоіцца паўстанцы.

Мы ўдзячны літоўскаму боку за праведзеную працу і плённае супрацоўніцтва і, безумоўна, за магчымасць усім разам быць тут, у Вільні, дзеля ўшанавання нашых землякоў.

Перакананы, што капліца на могілках Росы стане тым месцам, куды будуць прыходзіць беларусы, літоўцы, палякі, латышы і ўкраінцы, каб аддаць пашану памяці сваім землякам.

Напрыканцы хачу адзначыць: для кожнай краіны ёсць свой вобраз Кастуся Каліноўскага, але ён не павінен стаць той гістарычнай постаццю, якая выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах. Наадварот, гэта тая старонка нашага сумеснага мінулага, якую мы павінны шанаваць і якая нас аб'ядноўвае зараз і ў будучыні.

Дзякуй за ўвагу!

# Праз 155 гадоў...

*У пятніцу 22 лістапада гістарычная падзея сабрала ў Вільні тысячы беларусаў, літоўцаў і палякаў. У апошні шлях яны праводзілі нацыянальных герояў – Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага і 18 іншых паўстанцаў 1863–1864 гадоў.*

### Жывы паток не канчаўся...

8.30 раніцы. Пад барабанны стук і пераклік званоў салдаты літоўскай ганаровай варты і Войска Польскага ўрачыста перанеслі 20 невялікіх драўляных трун з парэшткамі паўстанцаў з Палаца валадароў у Кафедральны касцёл. На плошчы перад касцёлам сабралася мноства людзей, сярод незлічонай колькасці розных сцягоў вельмі і вельмі выдзяляюцца бел-чырвона-белыя. Яшчэ нядаўна цяжка было паверыць у тое, што праз 155 гадоў пасля смяротнага пакарання нацыянальных герояў расійскім царскім рэжымам мы атрымаем магчымасць прысутнічаць на іх пахаванні.

Ад 9-й гадзіны да ўваходу ў касцёл выцягнулася чарга. Людзі праходзяць побач з трунамі павольна, спыняючыся, некаторыя кленчаць і моляцца, у многіх на вачах слёзы. Жалобна гучыць кафедральны арган.

Жывы паток не канчаецца.

Бачу, як змяняецца ганаровая варта побач з трунамі. Польскія і літоўскія салдаты... а беларускіх няма. Аказваецца, Міністэрства абароны адмовілася далучацца да ўрачыстасцяў. А шкада!

### Сюды нельга было сёння не прыехаць!

Так, на пляцы перад Кафедральным касцёлам бел-чырвона-белых сцягоў значна больш, чым літоўскіх і польскіх. Людзі глядзяць на вялікія экраны, усталяваныя перад касцёлам, на якіх няспынна вядзецца трансляцыя.

Тут жа на плошчы сустракаю гродзенскага гісторыка **Вячаслава Шведа**, які выдаў некалькі кніг, прысвечаных паўстанню 1863 года.

– *Я гісторык і пішу пра былое, мая задача, каб гэта было аб'ектыўна,* – разважае Швед. – *Але я ніколі нават уявіць сабе не мог, што давядзецца прысутнічаць на пахаванні Кастуся Каліноўскага і ягоных паўстанцаў. Тут і літоўцы, і палякі, і беларусы, і я бачу, як гэта падзея яднае нас. Сёння вельмі важны дзень, ён увойдзе ў гісторыю!*

Пенсіянерка **Ала Спосаб** з Мінска не можа стрымаць эмоцый, якія перапаўняюць душу. Кажа, што яна і яе сябры не маглі ў гэты дзень не прыехаць сюды.

– *Як ніколі я адчуваю сувязь пакаленняў, сувязь народаў суседніх краін,* – заўважае Ала Спосаб. – *Колькі людзей прыехалі з самых розных куткоў Беларусі! Прыехалі, каб па-хрысціянску пахаваць герояў. Колькі тут нашых сцягоў!.. Я наогул лічу, што тое паўстанне – адна з самых рамантычных і трагічных старонак гісторыі Беларусі, Польшчы, Літвы. І вось праз 155 гадоў настаў час для жалобнай працэсіі.*

**Віктар Сазонаў** з Гродна, едучы ў Вільню, марыў адчуць вольны паўстанцкі дух. Гродзенец лічыць, што вельмі патрэбна, каб ён вярнуўся ў Беларусь:

– *Адсюль гэты дух паедзе ў розныя гарады Беларусі, каб да нас вярнуліся свабода, роўнасць і справядлівасць. За гэта змагаліся Каліноўскі і паўстанцы.*

Маладзенькая дзяўчынка, тулячыся ад пранізлівага студзёнага ветру, абкруцілася бел-чырвона-белым сцягам. Кажа: ён грэе. **Караліна Карповіч** з вясковай беларускамоўнай школы ў Маладзечанскім раёне прыехала на пахаванне герояў з татам і мамай.

Развітацца з паўстанцамі прыбылі афіцыйныя асобы і замежныя дэлегацыі. Літву і Польшчу прадставілі прэзідэнты – **Гітанас Наўседа** і **Анджэй Дуда**. На лаве ў Кафедральным касцёле **Даля Грыбаўскайтэ, Валдас Адамкус, Вітаўтас Ландсбергіс, Альгірдас Бразаўскас.** З беларускага боку – віцэ-прэм'ер **Ігар Петрышэнка.**

Святую імшу служаць арцыбіскуп-мітрапаліт **Гінтарас Грушас**, біскупы і вайсковыя капеланы з Літвы, Польшчы і Беларусі. Пра Кастуся Каліноўскага прамаўляе каталіцкі арцыбіскуп, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі **Тадэвуш Кандрусевіч.**

Тут тысячы і тысячы людзей. Над натоўпам лунае атмасфера ўрачыстасці і ўзнёсласці.

### Праз Вострую браму святую...

Некалькі гадзін людзі заходзілі і заходзілі ў храм, каб схіліць галовы перад тымі, хто аддаў сваё жыццё за свабоду, за тое, каб і палякі, і літоўцы, і беларусы былі гаспадарамі на сваёй зямлі.

Пад вечар жалобная працэсія накіроўваецца праз Стары горад да могілак Росы. Яна ўражвае ўсіх, хто далучыўся да яе. Ганаровы эскорт: лафеты і сучасныя катафалкі. Наперадзе барабаншчыкі і святары, адразу за эскортам – прэзідэнты і вышэйшыя асобы.

Незлічоная колькасць людзей і сцягоў, якія зліліся ў агульную плынь.

"Героям-паўстанцам – слава! Слава! Слава!" – крычалі ў патоку людзі.

Беларусы спявалі "Пагоню" і неслі мноства бел-чырвона-белых сцягоў.

Калі працэсія праходзіла праз Вострую браму, яна на момант прыпынілася, і абраз Маці Божай Вострабрамскай з вышыні асвяціў труны паўстанцаў.

На Росах героі знайшлі свой апошні прытулак у адмысловай капліцы. Уся цырымонія да апошняй хвіліны транслявалася на вялікіх экранах. Пасля таго як прэзідэнты пакінулі капліцу, кветкі, вянкі і znічы туды маглі занесці ўсе жадаючыя.

Нагадаем, што парэшткі Кастуся Каліноўскага і іншых удзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў знайшлі на гары Гедыміна ў Вільні падчас адмысловых будаўнічых работ па ўмацаванні схілу гары. Кастусь Каліноўскі быў павешаны царскім сатрапам Мураўёвым 22 сакавіка 1864 года ў Вільні на Лукішскай плошчы. Яму было толькі 26 гадоў.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**(Працяг тэмы на 2-й і 5-й стар.)**

ФАКТ

### БДУ пашырае сувязі...

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт будзе супрацоўнічаць з Шанхайскім універсітэтам Цзяатун. Учора ў Шанхайскім універсітэце рэктары ВНУ падпісалі мемарандум аб узаемаразуменні.

Мемарандум рэгламентуе абмен студэнтамі, магістрантамі, аспірантамі, запрашэнне выкладчыкаў і даследчыкаў для сумеснай працы над навукова-даследчымі і адукацыйнымі праектамі, а таксама прадугледжвае абмен інфармацыяй, навучальнымі матэрыяламі, сумеснае правядзенне розных навукова-адукацыйных мерапрыемстваў і падрыхтоўку публікацый.

ЛІЧБЫ

### Справа на мільярд

Беларусь у наступным годзе плануе размясціць еўрабонды на суму больш як мільярд долараў.

Як паведаміў журналістам прэм'ер-міністр Беларусі **Сяргей Румас**, напэўна, еўрабонды будуць размешчаны ў Лондане.

Паводле слоў Румаса, урад лічыць найбольш удалым часам для выхаду на такі рынак першы квартал 2020 года.

ЭНЕРГЕТЫКА

### Украіна – найбуйнейшы спажывец

Наша суседка ў 2020 годзе плануе закупіць у Беларусі 2,1 мільярда кілават•гадзін электраэнергіі. Такі аб'ём ужо ўключаны ў прагнозны баланс электрычнай энергіі Аб'яднанай электрычнай сістэмы Украіны на будучы год.

Пры гэтым у Кіеве падкрэслілі, што размова ідзе выключна пра пастаўку беларускай энергіі на ўнутраны рынак, а не для яе далейшага рээкспарту.

Дарэчы, Беларусь цягам ліпеня–кастрычніка паставіла ўкраінскім спажыўцам 644,9 мільёна кілават•гадзін і выйшла на першае месца ў аб'ёмах паставак.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

### Чаму Зянон Пазьняк не прыехаў у Вільнюс?

Лідар КХП–БНФ, які ўжо працяглы час жыве і працуе ў эміграцыі, не з'явіўся на перапахаванне Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў у сталіцы Літвы.

*"Зянон Станіслававіч вельмі хацеў патрапіць на гэтыя мерапрыемствы, планаваў паездку, але не атрымалася,* – патлумачыў "Народнай Волі" намеснік старшыні КХП–БНФ **Юрась Беленькі**. – *У гэты час ён быў у Амерыцы, не здолеў прыляцець у Вільнюс. Гэта звязана з пэўнымі юрыдычнымі момантамі".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВАНДАЛІЗМ

### А сцяг спалілі...

У расійскім Екацярынбургу невядомыя разбілі акно ў мясцовым аддзяленні пасольства Беларусі і спалілі беларускі дзяржаўны сцяг. Як паведамілі расійскія СМІ, напалі на прадстаўніцтва, якое знаходзіцца ў самым цэнтры горада, ноччу 25 лістапада.

Афіцыйны прадстаўнік МЗС Беларусі **Анатоль Глаз** пацвердзіў TUT.by гэтую інфармацыю і дадаў, што зараз *"вядзецца разбіральніцтва, працуюць прадстаўнікі праваахоўных органаў расійскага боку".*

**Віктар ШПАК.**



ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Заробкі настаўнікаў наблізіліся да 1000 рублёў

*"Народная Воля", напішыце, калі ласка, колькі сёння зарабляюць нашы настаўнікі,* – патэлефанаваў у рэдакцыю наш чытач з Лідскага раёна Станіслаў Сцяпура. – *Так самаахвярна яны працавалі ў выбарчых камісіях, так адстойвалі праўладных кандыдатаў, што быццам нарэшце і самі заможна зажылі ў Беларусі".*

Мяркуйце самі, наколькі заможныя нашы настаўнікі.

Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у верасні (за кастрычнік статыстыкі яшчэ няма) сярэдняя зарплата ў сферы адукацыі склала **802,6 рубля**. Настаўнікі ў сярэднім атрымлівалі **985,4 рубля,** выкладчыкі і прафесары ВНУ – **1353,3 рубля**.

Па рэгіёнах сярэдні заробак школьных настаўнікаў у верасні быў такі:

**Брэсцкая вобласць – 1022 рублі,**
**Віцебская вобласць – 938,6,**
**Гомельская вобласць – 1050,8,**
**Гродзенская вобласць – 939,3,**
**Мінск – 1009,6,**
**Мінская вобласць – 998,2,**
**Магілёўская вобласць – 887,7 рубля.**

Дарэчы, у цэлым па краіне сярэдняя зарплата ў верасні складала 1108,5 рубля.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

## 600 публічных бібліятэк будуць з «Народнай Воляй»!

Ёсць, ёсць у нас людзі, для якіх дабрачыннасць – патрэбнасць душы! Вось і на просьбу "Народнай Волі" многія адразу ж адгукнуліся. На рахунак рэдакцыі паступіла ўжо некалькі тысяч рублёў.

Дзякуй Вам, шаноўныя! Пазней, пасля падвядзення вынікаў, мы канчаткова вызначымся з формай падзякі кожнаму з Вас.

А пакуль хочам нагадаць: каб **у першай палове 2020 года** "Народная Воля" рэгулярна паступала ў 600 публічных бібліятэк, нам трэба сабраць **36.000 рублёў**. Уключайцеся, паважаныя сябры, у дабрачынную акцыю, збор сродкаў працягваецца. Рады будзем ахвяраванням у любым памеры. Нагадваем рэквізіты для пералічэння грошай (з адзнакай "Падпіска для бібліятэк"):

**Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "Народная Воля"**
**220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**банкаўскія рэквізіты:**
**р/р BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**у "Прыёрбанк" ААТ, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Адначасова хочам адзначыць: выказваючы шчырую ўдзячнасць усім патэнцыйным ахвярадаўцам, рэдакцыя газеты "Народная Воля" заўжды гатова наладзіць з Вамі самыя цесныя стасункі. Рады будзем бачыць вас у нашым офісе па адрасе: Мінск, вул.Энгельса, 34а. Кантактны тэлефон – 8-017-328-68-71.

***Рэдакцыя газеты «Народная Воля».***

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ

# Нішто так не аб'ядноўвае, як пралітая за агульныя ідэалы кроў

*Слова арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча падчас цырымоніі перапахавання Кастуся Каліноўскага ў Вільні*



**Глыбокапаважаныя спадары Прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа і Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда,**

**Ваша Эксцэленцыя арцыбіскуп Гінтарас Грушас, Мітрапаліт Віленскі,**

**шаноўныя Эксцэленцыі,**

**паважаныя кіраўнікі афіцыйных дэлегацый Беларусі, Латвіі і Украіны,**

**прадстаўнікі дзяржаўных уладаў,**

**духоўныя асобы, вернікі, умілаваныя браты і сёстры, у тым ліку пілігрымы асабліва з Беларусі!**

Божы Провід дазваляе нам браць удзел у перапахаванні парэшткаў удзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў. Гара Гедыміна – сімвал Вільні – два гады таму адкрыла нам сваю таямніцу. Нарэшце скрытыя на працягу паўтараста гадоў парэшткі герояў паўстання былі адшуканыя і сёння з пашанай пераносяцца на месца вечнага спачынку на могілкі Роса ў Вільні.

У Бога няма выпадковасцяў. Магчыма, так трэба было, каб мы зноў узгадалі пра тых, хто аддаў сваё жыццё ў трагічных абставінах, імкнучыся здабыць волю.

Паўстанцы былі прадстаўнікамі розных народаў і веравызнанняў. Але ўсе яны змагаліся з царызмам за свабоду сваіх народаў і за іх агульную свабоду – змагаліся «за нашу і вашу свабоду».

Сярод іх Канстанцін Каліноўскі, сын беларускага народа, лідар нацыянальнага вызваленчага руху, публіцыст і паэт, высакародны чалавек, які вызначаўся надзвычайнаю сілаю духу і з'яўляўся адным з кіраўнікоў паўстання. Таму сённяшняя падзея мае вялікае значэнне таксама і для Беларусі.

Канстанцін Каліноўскі належыць нашай гісторыі як той, хто заклаў аснову самасвядомасці беларусаў як асобную еўрапейскую нацыю, якая мае права на самавызначэнне.

У ім і яго паплечніках мы бачым узор альтруізму, самаахвярнасці, усведамлення ўласнае годнасці.

Хоць у жыцці і барацьбе паўстанцаў былі разнастайныя аспекты, якія цяжка ацаніць у некалькіх сказах, і хоць само паўстанне не прынесла жаданага плёну, тым не менш яно пакінула свой след у гісторыі.

Узгадваючы тыя далёкія гістарычныя падзеі, мы не імкнёмся раздзіраць загоеныя раны і пасыпаць іх соллю. Наадварот, мы хочам яшчэ раз асэнсаваць, да чаго можа прывесці адсутнасць любові да бліжняга і павагі да яго правоў, якія ён атрымаў ад Бога, каб падобнае больш ніколі не паўтарылася.

Мы таксама жадаем маліцца за паўстанцаў-мучанікаў, магілы якіх яшчэ зусім нядаўна не былі вядомыя, і аднавіць братэрскія адносіны з суседнімі народамі і вернікамі розных веравызнанняў. Нішто так не аб'ядноўвае, як пралітая за агульныя ідэалы кроў.

Сімвалічна, што перапахаванне парэшткаў паўстанцаў адбываецца ў Вільні – горадзе Божай Міласэрнасці. Сваімі малітвамі мы спадарожнічаем загінуўшым паўстанцам і даручаем іх душы міласэрнаму Богу.

Вечны адпачынак дай ім, Пане, а святло вечнае няхай ім свеціць! Няхай адпачываюць у супакоі. Амэн!

ЧУЛІ?

## У Мінску могуць з'явіцца новыя праязныя

*У "Мінсктрансе" прапрацоўваюць магчымасць увядзення кароткатэрміновых квіткоў для аплаты праезду ў гарадскім грамадскім транспарце на 30 і 60 хвілін.*

На прадпрыемстве адзначылі, што такія праязныя дадуць магчымасць неабмежаванай колькасці перасадак на любы від наземнага транспарту на працягу аплачанага часу, паведамляе minsknews.by.

Праўда, кошт квіткоў пакуль не пралічваўся, нічога не вядома на гэты момант і пра тэрміны новаўвядзення.

СТАТЫСТЫКА

## Як напаўняецца бюджэт сталіцы?

*Паводле звестак Міністэрства па падатках і зборах, за 10 месяцаў 2019 года Мінск сабраў 11 млрд 125,5 млн рублёў плацяжоў, якія кантралююцца падатковымі органамі.*

У структуры паступленняў па катэгорыях плацельшчыкаў лідарам з'яўляецца недзяржаўны сектар эканомікі з удзельнай вагой 73,5%, у тым ліку ўнёсак арганізацый недзяржаўнага сектара складае 68,5%. На арганізацыі дзяржаўнага сектара прыпадае 26,5% усіх паступленняў, на фізічных асоб – 3,1%, індывідуальных прадпрымальнікаў – 1,9%.

Дарэчы, у Мінску налічваецца 134 тысячы суб'ектаў недзяржаўнага сектара эканомікі і амаль 2,6 тысячы – дзяржаўнага.

БЛІЦ

# Ці ўдасца ўладам без дыялогу з апазіцыяй і ўсім грамадствам утрымаць незалежнасць краіны?

**Аляксандр САСНОЎ, былы міністр працы, сацыёлаг:**

– Добрае пытанне… Думаю, без дапамогі апазіцыі і ўсяго народа – вельмі сумніўна, што нешта атрымаецца. Калі будуць толькі закулісныя гульні тых, хто зараз ва ўладзе, можа быць усё што заўгодна. Нават нечая кроў можа праліцца.

Усё можа быць, бо пытанне вельмі прынцыповае… А калі ўвесь народ будзе бараніць незалежнасць – тады можна спадзявацца на тое, што Беларусь застанецца самастойнай краінай. Пагроза незалежнасці сапраўды існуе…

**Аляксандр ЯРАШУК, старшыня асацыяцыі прафсаюзаў «Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў»:**

– Я не сумняваюся ў тым, што незалежнасць краіны будзе захаваная. Небяспека з боку Расіі, пра якую многія кажуць, на мой погляд, вельмі перабольшаная.

Сёння я вёў бы размову не пра незалежнасць, а пра тыя перамены, якія даўным-даўно павінны былі адбыцца.

**Дзмітрый КУЧУК, бізнесмен, дырэктар кампаніі «Смеццесартавальная станцыя "Заходняя":**

– Мне падаецца, што дыялог неабходны. І калі ўлада не пойдзе на адкрытую размову з апазіцыяй і грамадствам, будзе няпроста ўтрымаць незалежнасць краіны. Бо ціск з боку Расіі будзе толькі ўзмацняцца. Як ні дзіўна, але ўлада ў гэтым пытанні можа разлічваць на дапамогу ў першую чаргу апазіцыі. Сёння пытанне незалежнасці хвалюе многіх беларусаў, і ўлада павінна прыслухоўвацца да меркаванняў людзей.

**Уладзімір КОЛАС, рэжысёр-дакументаліст, заснавальнік Беларускага гуманітарнага ліцэя, кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы "Рада беларускай інтэлігенцыі":**

– Могуць стварыцца такія варункі, што без дыялогу ўлады з апазіцыяй і шырокай грамадскасцю не ўдасца адстаяць незалежнасць. Многае будзе залежаць ад дзеянняў нашага ўсходняга суседа… Мы адчуваем, што ўлады нарэшце пачынаюць варушыцца ў гэтым накірунку, і правільна робяць. Але адной рукой яны імкнуцца нібыта прыцягнуць да сябе грамадства, а другой яго лупяць. Дзеянні даволі непаслядоўныя… Безумоўна, трэба, каб грамадства аб'ядноўвалася вакол тэмы незалежнасці краіны.

**Андрэй САВІНЫХ, былы амбасадар Беларусі ў Турцыі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў сёмага склікання:**

– Пытанне пастаўлена правільна, але, я лічу, некарэктна. Яно выклікае сустрэчныя пытанні: чаму вы вырашылі, што ўлада не вядзе дыялог з грамадствам? З майго пункту гледжання, вядзе, і вельмі актыўна, абапіраючыся на масавыя грамадскія рухі.

Пытанне другое: каго вы лічыце апазіцыяй? Калі асобныя малыя групы, створаныя для лабіравання інтарэсаў розных знешніх "гульцоў", то весці з імі дыялог аб незалежнасці краіны не мае сэнсу. У іх іншыя задачы, часта прама супрацьлеглыя.

А агульная пазіцыя такая: незалежнасць краіны будзе забяспечана!

**Зміцер ДАШКЕВІЧ, заснавальнік мэблевай кампаніі "Цесляры", былы лідар незарэгістраванага апазіцыйнага беларускага руху "Малады Фронт":**

– Калі ўладам выгадна будзе ў нейкі момант скарыстацца пазіцыяй грамадзянскай супольнасці, яна пойдзе на такі дыялог. Калі зноў у Маскве нешта засвеціць – не пойдзе. …

**Алесь БЯЛЯЦКІ, праваабаронца:**

– Пытанне аб захаванні незалежнасці дастаткова сур'ёзнае і патрабуе дыялогу ўлады з шырокай грамадскасцю. На жаль, за 25 гадоў мы не бачылі нават памкнення да гэтага. Лукашэнка стараецца ўсе пытанні вырашаць самастойна, ігнаруючы грамадзянскую супольнасць. Хаця тут якраз кансалідацыя ўлады і грамадства проста неабходная! Не будзе кансалідацыі – гэта ўсім нам можа каштаваць вялікіх страт.

У прыклад можна прывесці былога прэзідэнта Францыі Шарля дэ Голя, які ў свой час аб'яднаў французаў у змаганні супраць акупантаў і калабарацыяністаў. І тады ў свабоднай Францыі аб'ядналіся ўсе.

Вельмі хацелася б, каб і нашай уладзе хапіла мазгоў дзейнічаць разам з усім грамадствам, калі яна гэтага не зробіць – будзе яе вялізная гістарычная памылка.

**Апытвала Марына КОКТЫШ.**

СЛАВА ГЕРОЯМ!

# Прасілі прабачэння ў Каліноўскага

*Вечарына памяці прайшла ў Гомелі*

Усіх, хто прыходзіў 22 лістапада ў Гомельскі грамадска-палітычны цэнтр на вуліцы Палескай, сустракалі маладыя касінеры, узброеныя натуральнымі косамі. Гучала пытанне: "Каго любіш?" Пачуўшы адказ "Люблю Беларусь!", касінеры адгукаліся: "То ўзаемна!" – і прапускалі гасцей на памятную вечарыну з нагоды перапахавання ў Вільнюсе парэшткаў герояў-паўстанцаў 1863–1864 гадоў.

Адкрыў вечарыну яе ініцыятар, старэйшы гомельскі палітык і грамадскі актывіст **Уладзімір Кацора**. Ён патлумачыў грамадзе: вечарыну памяці вырашыў арганізаваць таму, што з розных прычын не ўсе жадаючыя гамельчукі маглі паехаць у Вільнюс, дзе былі знойдзены і ўрачыста перапахаваны парэшткі Кастуся Каліноўскага і яшчэ двух дзясяткаў паўстанцаў, пакараных смерцю расійскай акупацыйнай адміністрацыяй.

*"Думаю, што мы ўсе павінны прасіць прабачэння ў Кастуся Каліноўскага і яго таварышаў за тое, што мы хоць фармальна і незалежная краіна, але несвабодная. Мы нават сёння не ў стане прыняць парэшткі тых людзей, якія ў свой час аддалі жыццё за нашу свабоду"*, – сказаў Уладзімір Кацора.

Падчас імпрэзы былі агучаны імёны двух дзясяткаў паўстанцаў, перапахаваных у літоўскай сталіцы на могілках Росы.

Доктар гістарычных навук **Рыгор Лазько** лічыць, што паўстанцы былі пасіянарнымі людзьмі – яны скіравалі сваю выключную энергію на змену існуючых парадкаў на беларускіх землях у тагачаснай царскай Расіі.

Сын заможнага шляхціца Кастусь Каліноўскі скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, меў перад сабой выбар – мог зрабіць кар'еру службоўца ў галіне камеральнага права, аднак выбраў шлях змагання. Паўстанне скончылася трагічна, але тая трагедыя, паводле думкі Лазько, была аптымістычнай, бо падштурхнула гістарычны працэс развіцця нацыянальнага руху. Царскія ўлады змушаны былі зменшыць плату за выкуп зямлі, беззямельных сялян надзялілі трыма дзесяцінамі (3,27 га) зямлі з дзяржаўнай маёмасці.

Прамоўца вызначаў Каліноўскага як нацыянальнага героя Беларусі, паколькі сам Кастусь успрымаў беларусаў як асобную нацыю. Гэта адлюстравана было нават у паролі паўстанцаў: "Каго любіш? – Люблю Беларусь!" – "То ўзаемна!".

Шмат цікавага распавёў удзельнікам вечарыны пісьменнік **Анатоль Бароўскі**, аўтар рамана "Воляй абраны", у якім адлюстравана гісторыя кахання правадыра паўстання Каліноўскага і Марыі Ямант. Праз цётку Марыі, Ядвігу Макрыцкую, Каліноўскаму ўдалося перадаць на волю "Лісты з-пад шыбеніцы".

Кастусь быў восьмым дзіцём у сям'і Сямёна Каліноўскага і яшчэ да паступлення ва ўніверсітэт авалодаў паўдзясяткам моў, у тым ліку нямецкай, французскай, італьянскай. Газету "Мужыцкая праўда" выдаваў з паплечнікамі на беларускай, пішучы тэксты лацінскім шрыфтам.

*"У Кастуся Каліноўскага апроч вядомых усім якасцяў арганізатара, публіцыста былі і вялікія здольнасці да пераўвасаблення. Ён быў выдатным разведчыкам,* – распавёў пісьменнік Бароўскі. *–У яго хутка адрастала барада, і ў такім выглядзе ён мог у карчме папросту сустрэцца з царскімі стражнікамі, чокнуцца келіхам з півам і накіраваць іх у адваротным напрамку ад таго, куды збіраўся ехаць сам. А выдаў Кастуся жандарам камісар Магілёўскай губерні Віталь Парфяновіч, якому ён давярыўся".*

Гісторык **Валянціна Лебедзева** зазначыла, што яе перапаўняе гонар з той нагоды, што Кастуся Каліноўскага 22 лістапада хавалі з такой пашанай у Вільнюсе з удзелам прэзідэнтаў Літвы, Польшчы, беларускай афіцыйнай дэлегацыі на чале з віцэ-прэм'ерам.

Кандыдат гістарычных навук **Валянцін Міхедзька** ў сваёй прамове адзначыў, што таемнае пахаванне паўстанцаў на гары Гедыміна ў Вільнюсе адкрылася менавіта праз магілу Кастуся Каліноўскага. Пасля апоўзня яго парэшткі праз паўтара стагоддзя першымі выйшлі з зямлі.

*"Гэта як боскае пасланне нам,* – сказаў навуковец Міхедзька. – *Запаветныя словы Кастуся Каліноўскага не згубілі сваёй сілы. Ён акрэсліў шлях наш беларускі, які мы яшчэ не спраўдзілі".*

Вечаровая імпрэза памяці скончылася ў грамадска-палітычным цэнтры малітваю "За Беларусь".

**Анатоль ЛІПСКІ.**

К БАРЬЕРУ!



## Геннадий ДАВЫДЬКО:

– Я человек жесткий, сторонник таких методов, которые никто не позволит мне… За кражу отсекал бы руку. И все – просто руку бы отсекал!

За мухляж на выборах я бы тоже что-нибудь отсекал. Не дай бог я узнаю! Говорят: есть. Поймайте, судите, проделайте пример – а как еще узнать?!

*(Из интервью «Еврорадио».)*

## Анна Толчикова:

– Я уверена, что на моем участке проголосовало только 300 человек. Плюс-минус... Да, я могла пару человек пропустить. Но это не сильно влияет, когда 300 человек общее количество получаешь. И они (*официальные члены комиссии.* – **Ред.**) такие [объявляют цифры проголосовавших]: 600, и за Давыдько проголосовали 350!

*(Из видео, размещенного в интернете.)*

***

**Геннадий Брониславович!**

**Никто не сомневается в том, что Вы человек жесткий, что готовы отсекать руку не только ворам. А не попытаться ли Вам проявить свой твердый характер в расследовании случая, который растиражирован Анной Толчиковой, наблюдателем на одном из избирательных участков, где Вы баллотировались в депутаты Палаты представителей? Почему бы Вам не инициировать создание по-настоящему независимой комиссии, состоящей из представителей правоохранительных органов, общественности и политических партий, не поспособствовать проведению тщательной проверки того, как проходило волеизъявление избирателей на данном участке в основной день голосования? И если будет подтверждено, что Анна Толчикова права, то Вам и карты в руки – потребовать самого серьезного наказания тех, кто сфальсифицировал результаты голосования. Даже если манипуляции были в Вашу пользу. Вы же человек жесткий, за мухляж на выборах, как и за кражу, готовы что-то отсекать…**

СУД!

# За кражу оружия из воинской части получили по 11 лет колонии

25 ноября в Барановичах огласили приговор по уголовному делу о краже оружия из воинской части, сообщает Intex-press.

Суд признал вину всех десятерых обвиняемых доказанной. Главный фигурант – бывший прапорщик **Дмитрий Кульжик** -- получил 11 лет лишения свободы в колонии усиленного режима и 50 базовых величин штрафа. Его также лишили звания прапорщика и права занимать административные должности, связанные с сохранностью оружия. С него взыскали в доход государства около 12 тысяч рублей за доход от продажи оружия.

Второй обвиняемый – **Юрий Марченко** – также получил 11 лет лишения свободы и 50 базовых величин штрафа с лишением воинского звания «старший прапорщик» и права занимать административные должности, связанные с сохранностью оружия. С него в доход государства взыскали около 2,5 тысячи рублей за доход от продажи оружия.

**Александр Веко** получил 8 лет лишения свободы с лишением звания майора милиции. К нему применили амнистию на 1 год. **Николай Демидов** – 6 лет лишения свободы с амнистией на 1 год. **Максим Новиков** – 5 лет лишения свободы с амнистией на 1 год и лишением воинского звания «старший лейтенант». **Николай Чорный** и **Денис Шавель** – 2 года 4 месяца лишения свободы с амнистией на 1 год. Их освободили в зале суда, как и **Николая Азарко** с **Сергеем Севрюком**, которые получили 2 года 3 месяца лишения свободы с амнистией на 1 год и лишением воинских званий «старший сержант». **Виталий Гринкевич-Судник** получил ограничение свободы без направления в исправительное учреждение с амнистией на год и лишением звания «старший прапорщик».

Напомним, на скамье обвиняемых оказались 10 человек. Двое из них до задержания служили в одной из воинских частей Барановичского гарнизона. Один – 45-летний Юрий Марченко – занимал должность начальника отдела материального обеспечения. Второй – 25-летний Дмитрий Кульжик – был заведующим складом в роте материально-технического обеспечения.

По предварительным данным следствия, заведующий складом Дмитрий Кульжик выносил из воинской части оружие и боеприпасы, которые затем продавал как самостоятельно, так и через иных лиц. Его соучастником стал Юрий Марченко. Самым ходовым товаром был пистолет Макарова: цены на него стартовали от 100 долларов. Автомат Калашникова обходился дороже – около 500 долларов. По данным следствия, военнослужащие вынесли более 25 пистолетов Макарова, около 10 автоматов Калашникова, 40-миллиметровый гранатомет, с десяток армейских взрывпакетов, около 4000 патронов к пистолетам и автоматам, а также другие боеприпасы.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# В Дрездене ограбили сокровищницу на миллиард евро

Вчера из коллекции старинных ювелирных изделий во всемирно известной сокровищнице «Зеленый свод», что в Дрездене, были украдены украшения предположительно на общую сумму около миллиарда евро.

По информации таблоида Bild, примерно в 5 утра по местному времени был совершен поджог электрощита под мостом Августа Сильного, который обеспечивает электричеством «Зеленый свод» и другие государственные музеи. Затем злоумышленники пробрались в здание, где хранится коллекция, их добычей стали только украшения, а не вазы, картины и другие более крупные предметы.

Злоумышленники целенаправленно украли с одной из витрин три комплекта украшений – один бриллиантовый и два алмазных, сообщила генеральный директор Государственных художественных собраний Дрездена Марион Акерман, не уточнив, похитили их полностью или нет. По ее словам, точная сумма материального ущерба не может быть определена, так как хранящиеся в «Зеленом своде» украшения не имеют продажной стоимости.

Как сообщили сотрудники полиции на пресс-конференции, злоумышленники проникли в помещение сокровищницы через окно. Двое грабителей попали в объектив камеры видеонаблюдения. Полиция не исключает, что участников ограбления было больше.

Дрезденская полиция сообщила, что обратилась для помощи в расследовании к коллегам из Берлина, чтобы «сопоставить модели схожих преступлений». В 2017 году из Музея Боде на Музейном острове в Берлине была похищена 100-килограммовая золотая монета стоимостью более 3 млн евро. Она до сих пор не найдена.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
26 ЛІСТАПАДА 2019 г.

АРТ-ЖЫЦЦЁ

# Язэп Драздовіч дачакаўся месца ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага музея

Прыйшоў час – і карціны філосафа і мастака Язэпа Драздовіча, першага стваральніка «беларускага стылю» ў мастацтве, знаходзяць нарэшце сваё месца ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея. Прынята рашэнне пашырыць залу беларускага мастацтва XIX–XX стагоддзяў жывапіснымі і графічнымі працамі гэтага самабытнага майстра з фондаў музея. Дарэчы, некаторыя з яго карцін выйдуць да гледача ўпершыню.

Так, спецыялісты ведалі пра Язэпа Драздовіча заўсёды, але актыўна ўзгадваць яго, папулярызаваць сталі толькі напрыканцы 1970-х, на хвалі беларускага адраджэння. Тады мастакі Марачкін, Кулік і Маркавец знайшлі магілу Драздовіча і ў 1982 годзе ўсталявалі там пліту з барэльефам (праца скульптара Шатэрніка). А Аляксей Марачкін, уражаны касмічным мысленнем суайчынніка, стаў метадычна збіраць яго работы – па вёсках, па закінутых падворках, часам сярод хламу і пылу. На шчасце, многія сяляне, для якіх Драздовіч пісаў "дываны" яшчэ да вайны, захавалі карціны майстра. Марачкін іх выкупляў і, сабраўшы калекцыю, перадаў частку яе ў Заслаўскі музей, частку – у фонд Саюза мастакоў. Купляў у яго карціны Язэпа Драздовіча і Нацыянальны мастацкі.


Язэп Дроздович. Автопортрет. 1943 г.

Найбольш цікавы і яркі перыяд творчасці Драздовіча, на думку спецыялістаў, – касмічны. Драздовіч наогул з'явіўся пачынальнікам касмічнай тэмы ў беларускім выяўленчым мастацтве. Многія творы яго касмічнага цыклу – фенаменальная з'ява не толькі ў беларускай, але і ў сусветнай культуры. У такім выглядзе і так рэалістычна да Драздовіча космас не маляваў ніхто. Гэтыя карціны і зоймуць зараз цэнтральнае месца ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея.

**Вікторыя ДРОЗД.**

РЭГІЁН

## «Гроднаэнерга» «мабілізаваўся»...

*Гродзенскія электрычныя сеткі пачалі інфармаваць жыхароў Гродна аб маючых адбыцца адключэннях электраэнергіі праз мабільную сувязь.*

Дзякуючы смс-паведамленням, "Гроднаэнерга" можа інфармаваць непасрэдна тых грамадзян, якія трапляюць у зону плануемых адключэнняў электраэнергіі падчас правядзення рамонту альбо ў выпадку аварыйнага адключэння. З дапамогай смс арганізацыя будзе паведамляць сваім кліентам аб змене тарыфаў на электраэнергію, аб парадку аплаты і ў іншых неабходных сітуацыях.

У смс-паведамленнях указваецца інфармацыя аб працягласці адключэння і тэрмінах аднаўлення падачы электраэнергіі. І што вельмі зацікавіць карыстальнікаў – смс-паведамленні будуць аплачвацца за кошт Гродзенскіх электрычных сетак.

Зараз прадпрыемства працуе над стварэннем базы дадзеных мабільных нумароў сваіх кліентаў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Амурные шашни на работе

Давно мы не получали анонимок. Кажется, последний раз это было лет пять назад, когда в «Народную Волю» написали из Могилевской колонии. Тем не менее редакция это «бесфамильное» письмо тогда напечатала: оно вызывало доверие, потому что затрагивало вопросы религиозной свободы в местах заключения и довольно жестко по этому поводу критиковало администрацию колонии. В общем, за словами не чувствовалось примитивного шкурного интереса. Хотя субъективизм, конечно, присутствовал.

Но сейчас передо мной лежит анонимка из столичного банка. И тоже о душе – только о чужой, которая потемки. Автор письма, как ему кажется, смело срывает покров тайны с пороков: **он сообщает в газету о служебном романе между зампредседателя банка и «простой валютной контролершей»** (фамилии прилагаются). И, наверное, рассчитывает на огласку.

Хм, и это серьезно?

А вообще-то там, в банке, непростая двухходовка: начальник полюбил подчиненную. Это банально. И, возможно, не так задевало бы финансистов-моралистов. Но в банке настоящий любовный треугольник! «Простая контролерша», по мнению автора (авторов?), в свою очередь соблазнила молодого начальника отдела и, пользуясь покровительством свыше, поставила его на должность начальника целого управления. «Она считает, что ей все позволено, даже ломать судьбы людей».

Ах, так вот где собака зарыта: кадровые перестановки. Кто-то занял чье-то место. А человек рассчитывал, претендовал... Но его кандидатуру не выбрали. И теперь он – оскорбленная гордыня, роется в чужом грязном белье и пишет письмо в независимую прессу: ау, справедливость!

Что ж, благодарим за сомнительную честь, но письмо, по нашему убеждению, во-первых, отдает инфантильностью. А во-вторых, просто дурно пахнет. Вы хотите выставить на всеобщее поругание интимные чувства двух взрослых людей, но свою фамилию (и личную жизнь!) при этом сохраняете в тайне. В принципе, это называется интриганством, а никак не заботой о «психологической обстановке в коллективе» (цитата из письма). Хотя, если для человека это действительно так важно (например, по религиозным соображениям), можно обратиться в профсоюзный комитет – пусть пройдет открытое обсуждение проблемы. Рискнете? Только удержитесь от рукоприкладства, пожалуйста.

Но, если серьезно, в европейской цивилизации служебные романы (если это не принуждение к интимной связи, не харассмент) теперь почти не осуждаются. Как говорится, древо жизни вечно зеленеет: люди проводят на работе большую часть своей жизни, и многие (как свидетельствуют опросы – это почти 45 процентов) попадают в сети тайной любви. Причем даже президенты: Билл Клинтон не устоял перед практиканткой Белого дома, Франсуа Олланд ездил к кому-то на скутере через весь Париж… Александр Григорьевич Лукашенко тоже испытывал определенные высокие чувства к своему личному врачу. И небеса, как он сам признается, благословили их отношения рождением внебрачного сына.

Впрочем, каждой из перечисленных персон, помнится, «добрые люди» так сладострастно перемывали косточки!.. Не позавидуешь. Такова уж наша добрая человеческая природа: как только чужие тайные чувства становятся достоянием общественности, они приобретают оттенок блуда. Осуждаются и осмеиваются. И часто тогда все высокое, интимное покрывается таким смрадом низких пересудов… Бывает, что и не отмоешься. Примерно, как в коллективе банка, о котором пишет наш аноним. Хуже всего это, кстати, сказывается на репутации и психологическом состоянии женщины. Ей-то уж ничего не прощается. Поэтому некоторые большие компании записывают в корпоративный этический кодекс категорический запрет на амурные шашни на работе.

Совсем недавно мир, не преувеличиваю, вздрогнул: из-за служебного романа лишился своей должности гендиректор McDonald's Стив Истербрук. Человек был разведен, и его симпатия к подчиненной была взаимной. Тем не менее совет директоров McDonald's посчитал это нарушением корпоративного этического кодекса и уволил топ-менеджера Истербрука, человека, который за четыре года повысил капитализацию компании вдвое. Причем сам уволенный назвал свое поведение ошибкой. Ого! А вы говорите, что только у нас партийные собрания при советской власти выкручивали руки. А вот вам собрание капиталистов. Но мне вот что интересно: продолжились ли эти романтические отношения и дальше? Потому что, по данным социологических опросов, те же 45 процентов респондентов, которые не против закрутить любовь на работе, ответили, что если перед ними встанет выбор, работа или любовь, они безоговорочно предпочтут работу. Так что не бросайтесь в омут с головой. А вдруг там коряга? Это касается и мужчин, и женщин. Мотайте на ус, романтики. Снимайте свои розовые очки, доверчивые овечки.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## Валерий КАРБАЛЕВИЧ:
# «Президентские выборы пройдут по жесткому сценарию…»

*Известный белорусский политолог **Валерий Карбалевич** проанализировал прошедшую парламентскую кампанию и сформулировал 10 выводов, которые озвучил на заседании экспертного клуба, организованного экс-главой Объединенной гражданской партии Анатолием Лебедько. Некоторые выводы аналитика весьма неутешительны для белорусской оппозиции.*

Вот что говорит Карбалевич:

**1.** Кампания показала, что в белорусском обществе не появилось массового и активного запроса на демократию, свободные выборы, реальный парламент. Ухудшение социально-экономического положения не вывело население из состояния апатии – все свелось к пассивным проклятиям в адрес власти.

**2.** Несмотря на то, что на протяжении двух десятков лет в белорусском обществе произошли определенные перемены, не меняется механизм обратной связи между обществом и властью. Лоббирование интересов отдельных социальных групп (например, айтишников) может быть только корпоративным, но никак не политическим. Власти могут обращать внимание на настойчивые требования каких-то групп населения (например, которые касаются наказания по наркотическим статьям, строительства аккумуляторного завода в Бресте), но отвергают любые попытки конвертировать протест в депутатские мандаты.

**3.** На падение доверия населения к власти последняя ответила традиционным способом – стала реализовывать жесткий сценарий проведения выборов, включив репрессивный механизм. Логика понятна: чем меньше поддержка общества, тем жестче становится политический режим, возрастает силовой фактор удержания власти, работает инстинкт самосохранения, идет элементарное закручивание гаек.

**4.** Действующая власть считает, что в ситуации падения доверия общества к ней даже слабый шум с парламентской трибуны становится опасным и может вызвать нежелательный резонанс. Поэтому в Палате представителей нет ни одного представителя оппозиции.

**5.** Новая информационная ситуация, широкое влияние интернета, социальных сетей, телеграм-каналов почти не поменяли ход избирательной кампании. Власти поняли, что онлайн не конвертируется в офлайн.

**6.** Оппозиция не является субъектом политики. Она не предложила обществу ни ценностной, ни политической, ни личностной альтернативы.

**7.** Никакого диалога с оппозицией и обществом действующий режим проводить не собирается.

**8.** Отношения с Западом. Лукашенко, вероятно, пришел к выводу, что больше нет острой необходимости играть в демократию с Западом: отношения разморожены, Европейский Союз снял санкции, США их приостановили. Проблема прав человека фактически вынесена за скобки отношений официального Минска с европейцами и американцами. Геополитика и вопрос независимости Беларуси вытеснили остальные проблемы. Страны Европейского Союза де-факто признали парламент Беларуси: сюда едут парламентские делегации, они встречаются с депутатами, и никаких больших перспектив конвертировать прогресс на выборах в практические дивиденды от сотрудничества с Западом в ближайшее время не видно. Поэтому власти посчитали, что риск от появления оппозиции в парламенте и проведения выборов по демократическому сценарию больше, чем возможные выгоды от сотрудничества с ЕС и США.

Во время визита в Австрию Лукашенко агрессивно и напористо критиковал западную позицию по вопросам демократии и всячески демонстрировал, что в настоящее время отношения с Западом будут развиваться на условиях официального Минска.

**9.** Давление со стороны России не поощряет власть искать поддержку со стороны населения. Наоборот, оказавшись в ситуации конфликта с Москвой, Лукашенко хочет иметь свободу, избавиться от всякого давления и влияния со стороны общества.

**10.** Президентские выборы в следующем году пройдут по жесткому сценарию. Возможности оппозиции будут ограничены сильнее, чем во время прежних президентских кампаний. Возможно, впервые могут быть не зарегистрированы оппозиционные кандидаты, даже собравшие 100.000 подписей.

**Марина КОКТЫШ.**

МЫСЛИ ВСЛУХ

# Когда белорусский парламент станет защитником гражданского общества?

В цивилизованных странах парламент является одновременно институтом государственной власти и институтом гражданского общества. Защищая на законодательном уровне интересы всех слоев населения. И это правильно. Если парламент не будет на деле опорой гражданского общества, он в таком случае не сможет быть и опорой государства, а если брать шире, то окажется не в состоянии способствовать укреплению независимости и суверенитета страны.

Государству, не имеющему фундамента в виде гражданского общества, угрожает опасность повиснуть в воздухе, рассыпаться в случае сколько-нибудь серьезного сбоя в верховной власти или внешнего вызова. И за доказательствами далеко ходить не надо. Достаточно вспомнить роль М.С.Горбачева в распаде СССР – мощнейшей государственной машины XX века. Или возьмем крушение Российской империи в результате отречения Николая II. И вот совсем недавние примеры: Ирак, Ливия, которые были относительно благополучными, стабильными государствами с хорошей ресурсной базой, мощным управленческим аппаратом, армией и спецслужбами и в то же время, с неразвитым гражданским обществом и соответствующими представительными органами. И, как известно, распад высшей государственной власти привел эти страны к стремительному хаосу и кровопролитию, которым не видно конца.

Есть и обратный пример, причем более близкий нам, – Украина. Весной 2014-го в этой соседней стране «исчезла» высшая государственная власть, аппарат и силовые структуры были практически парализованы, разгорелся вооруженный конфликт. Но украинская государственность тем не менее не распалась. Страна сохранила свой суверенитет. Спрашивается: благодаря чему? По большому счету благодаря складывавшемуся с момента обретения независимости гражданскому обществу. Именно наличие в Украине реальных общественно-политических организаций, партий, избранного в жесткой политической борьбе и обладающего реальной властью парламента, то есть, по сути, формирование в украинском обществе развитого гражданского сознания, спасло украинское государство в момент, когда оно, оставшись без верховной власти, столкнулось с внешней угрозой.

Все эти хорошо известные факты приводят ко вполне определенному выводу: одного наличия мощной государственной машины недостаточно для построения действительно сильной государственности. И главная угроза суверенитету любой страны – в не(до)сформированности гражданского общества, неразвитости гражданско-политического сознания.

Посмотрим теперь с этой точки зрения на то, что происходит у нас, в Республике Беларусь. Нравится кому-то или нет, но сегодня именно президент А.Г.Лукашенко является де-юре и де-факто гарантом государственного суверенитета. Но это только одна сторона дела. А на что еще, кроме президента и подчиненной ему вертикали власти, опирается белорусская государственность? Насколько развиты у нас институты гражданского общества, политическое сознание электората? И сможет ли вновь избранный парламент стать действенным фактором формирования гражданского общества и одной из прочных опор белорусской государственности? На этот счет могут быть, наверное, разные мнения, и, конечно, время покажет, кто прав. Многое, однако, можно сказать уже сейчас. И дело не только в каких-то правовых или организационно-технических моментах прошедшей избирательной кампании, не только в том, кто и как считал, но и в том, кого считали.

Поименный список провластных кандидатов в депутаты, кадров, которые будут решать всё, известен всем. Представлены в нем почти исключительно руководители среднего и высшего звена. Начальник начальнику, конечно, рознь, и многие наверняка достойные люди. Мало кто из них, правда, имеет политический опыт, но это, как говорится, дело наживное. Не хотелось бы только, чтобы народные избранники были далеки от народа, отрывались от него. А то ведь слышишь от руководительницы областного звена, что свою зарплату в 3600 рублей она считает соразмерной, и испытываешь сложные чувства, поневоле задумываясь: соразмерной чему? Зарплате учителя? Врача? А может, было бы соразмернее, если бы зарплата чиновника средней руки была выше зарплаты тех, кто учит и лечит, не в четыре-пять раз, а только в два? А вот личное мнение одного действующего депутата: необязательно публиковать декларации о доходах. И снова приходишь в недоумение: это как понимать? Можно просить избирателей о доверии и скрывать от них свои доходы? Такая гражданская позиция?

Или другой пример – не о доходах и декларациях, а о чем-то, наверное, более важном. Об уровне образованности и компетентности, о морали. Кандидат, не чиновник, – вузовский руководитель, обладатель ученых регалий, пусть и скромных. В официальном документе за его подписью в одном предложении три (!) грамматические ошибки, не считая опечаток. Такой вот образец административно-юридического творчества. Но это еще мелочи. Любопытно отношение кандидата-ученого к плагиату. Уличенная в плагиате завкафедрой руководимого им вуза, страницами заимствовавшая текст из популярной энциклопедии, по его мнению, полностью соответствует занимаемой должности, а выступивший против плагиата профессор соответствует не полностью и подлежит увольнению. Такой вот частный случай. И когда вспоминаешь об этом, тоже начинают терзать смутные сомнения: поспособствует ли такой уровень образованности и столь нетривиальное отношение к плагиату, то есть, собственно, к мошенничеству в науке, успешной законотворческой деятельности народного избранника?

В общем, в парламент попадают люди разные. Но всем нам, гражданам, хотелось бы, чтобы депутатами становились те, кто не отделяет себя от народа, кто думает не столько о своем личном благополучии, сколько о судьбе страны, ее будущем. И если вновь избранный в Беларуси парламент не будет способствовать развитию гражданского общества, то он вряд ли сможет стать надежной опорой независимости и суверенитета Республики Беларусь.

**Сергей НАДЕЖДИН, политолог.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

## Якія зніжкі чакаюць беларусаў?

29 лістапада – "чорная пятніца"! У гэты дзень па ўсім свеце абвешчаны зніжкі на тавары. Эксперты, дарэчы, кажуць, што ў "чорную пятніцу" продажы ў крамах у сярэднім па свеце вырастаюць на 663%.

Наколькі таннеюць тавары?

Усюды па-рознаму. У Беларусі ў мінулым годзе сярэдняя зніжка ў «чорную пятніцу» склала 54%. Гэта крыху менш, чым у 2017-м, калі сярэдняя зніжка была 56%. Між тым, як сведчаць апытанні, пакупнікі чакаюць ад крам сярэдніх зніжак у 62%.

**Іван ШЫРОКІ.**

схватке, которая открыла бы дорогу для «всемирной революции» в советском стиле. СССР постарался бы остаться вне расширяющегося конфликта настолько долго, насколько возможно. Есть мнение, что СССР готовился к наступательной войне на чужих территориях и оказался не готов к оборонительной войне. После присоединения к СССР в 1939–1940 годах Западной Белоруссии, Западной Украины, прибалтийских республик и Бессарабии старая оборонительная «Линия Сталина» (так назвали западные журналисты линию укреплений границ СССР) была законсервирована, и примерно на 300 километров западнее стала возводиться новая «Линия Молотова». Вооружение из «Линии Сталина» было снято и сдано на склады, а часть передана на новые укрепления.

И еще несколько штрихов, доказывающих схожесть гитлеровского и сталинского режимов.

В изданной для личного состава вермахта «Памятке немецкого солдата» говорилось: «У тебя нет сердца, нервов, на войне они не нужны. Уничтожь в себе жалость и сочувствие – убивай всякого русского, советского, не останавливайся, если перед тобой старик или женщина, девочка или мальчик, – убивай, этим ты спасешь себя от гибели, обеспечишь будущее своей семье и прославишься навеки».

24 июля 1942 года в газете «Красная звезда» Илья Эренбург написал: «Мы поняли: немцы не люди. Отныне слово «немец» для нас самое страшное проклятье. Отныне слово «немец» разряжает ружье. Не будем говорить. Не будем возмущаться. Будем убивать. Если ты не убил за день хотя бы одного немца, твой день пропал. Если ты думаешь, что за тебя немца убьет твой сосед, ты не понял угрозы. Если ты не убьешь немца, немец убьет тебя. Он возьмет твоих и будет мучать их в своей окаянной Германии. Если ты не можешь убить немца пулей, убей немца штыком. Если на твоем участке затишье, если ты ждешь боя, убей немца до боя. Если ты оставишь немца жить, немец повесит русского человека и опозорит русскую женщину. Если ты убил одного немца, убей другого – нет для нас ничего веселее немецких трупов. Не считай дней. Не считай верст. Считай одно: убитых тобою немцев. Убей немца! – это просит старуха-мать. Убей немца! – это молит тебя дитя. Убей немца! – это кричит родная земля. Не промахнись. Не пропусти. Убей!». Эта статья стала памяткой для советского солдата.

### Скрытно от народа

Сталинизм оставил еще одно наследство – секретность, непубличность действий аппарата государственного управления и особую привилегированную роль спецслужб в государстве.

Из принятых в 1930–1941 годах постановлений Политбюро менее 4 тысяч были публичными, более 28 тысяч – секретными, из них 5 тысяч настолько секретными, что о них было известно только узкому кругу посвященных. Считается, что введение режима секретности было необходимо для отделения подлинной информации от мнимой, предназначенной для населения. Это и контакты со спецслужбами позволяло Сталину иметь больше надежной информации, чем другие, получать ее раньше, осуществлять оперативное реагирование на изменение ситуации. Сталин получал существенные информационные преимущества перед прочими государственными структурами. Утверждается также, что у Сталина были свои, только ему известные абсолютно секретные разведка и контрразведка.

Спецслужбы в сталинской государственной системе занимают важное место. Они не только поставляли информацию руководству страны, но и контролировали выполнение планов экономического и политического развития СССР. Спецслужбы обладали правом на оперативно-розыскную деятельность, правом вести следствие, выносить приговор. Сталинский Народный комиссариат внутренних дел с точки зрения количества сотрудников, разветвленности аппарата, численности вооруженных формирований, влияния на экономическую систему СССР намного превосходил ВЧК.

Спецслужбы с их огромными полномочиями использовались Сталиным для победы во внутрипартийной борьбе.

Следует отметить, что Сталин не позволял руководителям НКВД-МГБ долго находиться у власти – и союзные, и БССРовские руководители спецслужб были в конце концов расстреляны.

***

В начале 1990-х годов, когда в Беларуси правящие элиты ориентировались на суверенный путь развития, сталинизм был осужден решительно, и, казалось, всё, что связано с его политикой, идеологией, исчезло безвозвратно. Но, к сожалению, время меняется, и дух сталинизма в определенных вариантах проявляется до сих пор. На публичных мероприятиях появляются люди в форме НКВД, свертывается критика сталинизма, ему находятся оправдания.

Сталинизм не должен повториться в нашей истории. Ни в каком виде. Никогда. Это наш долг перед потомками.

**Татьяна ПРОТЬКО,**
**кандидат исторических наук.**

СІТУАЦЫЯ

# Жарсці вакол лагатыпа

*Турыстычны лагатып Гродна, які перамог на конкурсе, аб'яўленым гарвыканкамам, гараджане ў інтэрнэце назвалі бяздарным. На іх баку прафесійныя гродзенскія мастакі і дызайнеры.*

### Патрабаванне часу

Пасля ўвядзення тры гады таму бязвізавага рэжыму Гродна стаў папулярным турыстычным цэнтрам. І яму, як любому вядомаму еўрапейскаму гораду, патрэбны свой знак, па якім яго будуць пазнаваць, які можна размяшчаць на рэкламе, які будзе папулярны як у гродзенцаў, так і ў гасцей горада.

Гродзенскі гарвыканкам аб'явіў конкурс на распрацоўку такога знака. Распрацоўшчык акрамя выявы лагатыпа павінен быў прыдумаць слоган, паказаць, як малюнак будзе выглядаць на друкаванай прадукцыі альбо ў гарадскім асяроддзі.

Конкурс давялося праводзіць у два туры. Першыя дасланыя працы, на думку арганізатараў, не зусім адпавядалі патрабаванням, а таму быў аб'яўлены другі тур. Агулам было прадстаўлена 50 прац, а ў выніку інтэрнэт-галасавання, у якім маглі ўдзельнічаць усе жадаючыя, да фіналу дайшлі 11 лагатыпаў.

Для ацэнкі конкурсных работ было створана журы з 19 чалавек: краязнаўцы, гісторыкі, чыноўнікі, кіраўнікі турфірм і гатэляў, журналісты, грамадскія дзеячы. У выніку пераможцам конкурсу быў названы лагатып, створаны і прадстаўлены брэсцкай студыяй GRAFIT. Журы палічыла, што выяўлены на лагатыпе алень Святога Губерта з залатым крыжам паміж рагамі «рухаецца наперад, не забываючыся на сваю гісторыю і мінулае, аб чым сведчыць яго павернутая ў бок галава. Чатыры асноўныя колеры лагатыпа – гэта колеры, узятыя з герба Гродна, якія выклікаюць асацыяцыі з вольным зялёным горадам».




### «Мы не можам ганарыцца такім лагатыпам»

Амаль адразу пасля аб'яўлення вынікаў конкурсу з'явілася петыцыя, у якой гродзенцы патрабавалі прызнаць вынікі закрытага галасавання несапраўднымі і прапанавалі арганізаваць чэснае народнае галасаванне. *«Мы не можам ганарыцца такім лагатыпам»*, – сцвярджалася ў звароце да гарадскіх улад.

У сацыяльных сетках з'явіліся сотні каментарыяў, прычым падчас з самымі некампліментарнымі ацэнкамі. Лагатып называлі *«бяздарным, які не перадае ні характару, ні душы Гродна і адкідвае горад на некалькі дзесяцігоддзяў назад»*.

*«На лагатыпе намаляваны не алень. Гэта мурашкаед з якарам на галаве, або цюлень з якарам на галаве, або суслік з якарам на галаве. Гэта ўжо каму як падабаецца...»* – напісаў адзін з аўтараў.

Яшчэ нехта заўважыў, што *«лагатып GRAFIT не самастойна распрацаваны студыяй, а змаляваны і сплагіяцяны з працы гродзенскага дызайнера сямігадовай даўніны»*.

Гучала меркаванне, што знак *«вельмі падобны да лагатыпа сеткі заправак у Літве»*. Адзін з дызайнераў пакінуў запіс: *«Як толькі ў шэрагах, якія прымаюць рашэнні, з'явяцца прафесіяналы і адукаваныя людзі, гэты лагатып адразу ж выкінуць на сметнік»*.

### На думку прафесіяналаў

Убаку ад гэтай дыскусіі не маглі застацца прафесійныя гродзенскія мастакі і дызайнеры. **Аляксандр Сільвановіч, Юрый Якавенка і Ірына Працко,** вядомыя ў асяроддзі мастакоў асобы, накіраваліся з гэтай праблемай да старшыні Гродзенскага гарвыканкама.

Ірына Працко сказала «Народнай Волі», што да кіраўніка горада яны пайшлі толькі з адной мэтай: патлумачыць, што лагатып Гродна, які абрала журы конкурсу, на іх думку, не адпавядае гораду. Прычым як з мастацкіх, так і з ідэалагічных прычын. Адной з галоўных памылак з'яўляецца тое, што распрацоўшчыкі брэнда ўзялі за аснову асобныя часткі гістарычнага герба горада. *«Прафесійная методыка не дапускае такіх рэчаў, паколькі гістарычны герб – гэта адно цэлае, і вельмі прыкра, што нехта выкарыстоўвае асобна галаву аленя альбо крыж Святога Губерта, а нехта – агароджу, праз якую алень скача,* – падкрэслівае спецыяліст. – *Такія рэчы не проста некарэктныя, неэтычныя – яны недапушчальныя».*

Паводле меркавання Працко, відавочны перабор колераў, а гэта ў сваю чаргу цягне за сабой наступствы тэхнічнага характару: малюнак будзе дрэнна трансляваца і фабрыкавацца.

Ірына Працко сказала «Народнай Волі», што старшыня гарвыканкама прыслухаўся да думкі вядомых у горадзе мастакоў і дызайнераў. Абраны журы новы брэнд не будзе зацверджаны. Конкурс плануецца правесці нанова, толькі цяпер ужо будзе распрацавана адмысловае тэхнічнае патрабаванне.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На здымку: лагатып Гродна, які распрацавала брэсцкая студыя GRAFIT.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Кніжная крэпасць Кастуся Цвіркі

Вясной 1995 года па доўгіх калідорах Міністэрства культуры і друку хадзіў інтэлігентнага выгляду чалавек з капелюшом у руках. Ён заходзіў у кабінеты і пераконваў адказных за кнігавыданне чыноўнікаў, што наспеў час у адмысловай заснаванай серыі выдаць усе шэдэўры беларускай літаратуры. Спіс шэдэўраў прыкладаўся – 200 тамоў.

Дзяржаўнае кнігавыданне тады дыхала на ладан, і на просьбіта глядзелі як на непапраўнага рамантыка. Бо і праўда – хто тыя тамы будзе рыхтаваць, вышукваць па архівах забытыя рукапісы, каментаваць і пры патрэбе перакладаць з замежных моў (наша прыгожае пісьменства здаўна было неаднамоўным)? На ўсё гэта патрэбна яшчэ адзін акадэмічны інстытут літаратуры…

Выслухаўшы чыноўніцкія пярэчанні (павучальныя і спачувальныя), чалавек з капелюшом у руках ад сваёй грандыёзнай задумы не адступіўся. І – сам стаў інстытутам літаратуры. Ужо ў наступным годзе ў кнігарнях з'явіўся першынец ціснутай золатам серыі «Беларускі кнігазбор» – том Яна Чачота з пазнакай: укладанне, пераклад польскамоўных твораў, прадмова і каментары Кастуся Цвіркі.

Не ведаю, як часта і ў якіх установах здымаўся Цвіркаў капялюш у наступныя гады, але – дзіва дзіўнае – справа пайшла. У прыватным выдавецтве, з дапамогай рэдкіх на той час мецэнатаў пачалі адзін за адным выходзіць у свет дыхтоўныя тамы праверанай часам класікі. На «Беларускі кнігазбор» самаахвярна, без гарантаваных ганарараў, працавалі карыфеі айчыннага літаратуразнаўства.

Прафесар Уладзімір Конан падрыхтаваў спадчыну Адама Станкевіча, якому савецкая ўлада спачатку прапанавала ўзначаліць «незалежную ад Ватыкана» каталіцкую царкву, а потым загубіла ў ГУЛАГу. Вацлавам Ластоўскім заапекаваўся Язэп Янушкевіч, які ў пошуках невядомых твораў Власта перагрос усе мінскія, вільнюскія і варшаўскія архівы. Закінуўшы часова ўласную публіцыстыку, захоплена працаваў над тамамі Фадзея Булгарына і Аляксея Карпюка Аляксандр Фядута, які нарэшце зразумеў, куды прыкласці свае высілкі з карысцю для Беларусі. А найлепшы ў Еўропе знаўца паўстання 1863 года Генадзь Кісялёў сабраў усё, што выйшла з-пад пяра Кастуся Каліноўскага…

«Беларускі кнігазбор» працаваў, як добра наладжаны канвеер. Так на першы погляд здавалася. А колькі бяссонных начэй і нервовых клетак ішло на кожны том – ведома толькі аднаму Кастусю Цвірку ды яго вернаму паплечніку Генадзю Вінярскаму, дырэктару выдавецтва. І сапраўды, як кажуць у народзе, адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць. Запаленая ад тых «галавешак» кнігазбораўская паходня заззяла высока і ярка. Пад маркай выдавецтва (неўзабаве яна стала надзвычай прэстыжнай) выходзілі ў свет не проста кнігі, а кнігі-адкрыцці: «Рэчыцкае Палессе» Чэслава Пяткевіча і «Усходняе Палессе» Казіміра Машынскага (заслуга Уладзіміра Васілевіча), «Беларускія летапісы і хронікі» (супольная праца Уладзіміра Арлова і Вячаслава Чамярыцкага), «Расстраляная літаратура» (плён Лідзіі Савік і ўсё таго ж Кастуся Цвіркі)…

Дзякуючы «Беларускаму кнігазбору», адбылася літаратурная рэабілітацыя Ларысы Геніюш і Уладзіміра Жылкі, чые савецкія выданні былі проста да непазнавальнасці знявечаны цэнзурай. К.Цвірка здолеў прыўзняць забаронны шлагбаум і перад пісьменнікамі-эмігрантамі – у серыі выйшлі Наталля Арсеннева, Рыгор Крушына, Масей Сяднёў, Аляксандр Надсан.

Асобна варта сказаць пра кнігазбораўскія тыражы – некаторыя тамы выдаваліся па 10.000 (!) асобнікаў (і разыходзіліся), а наклад 4000 лічыўся мінімальным. Нягледзячы на гэта, кнігі серыі да гэтай пары карыстаюцца попытам у бібліяфілаў – скажам, кошт «Расстралянай літаратуры» на інтэрнэт-аўкцыёнах не апускаецца ніжэй за 100 рублёў.

З цяжкасцю здабываныя на выданне серыі рублі часам змушалі кнігазбораўцаў ісці на кампраміс. Помню, звярнуўся ў выдавецтва адзін багаты белетрыст з Масквы (пісаў ён па-беларуску) з прапановай: я прафінансую тры тамы, але адзін з іх будзе мой уласны... Давялося пагадзіцца. Больш, здаецца, К.Цвірка не кампрамісічаў, бярог сваю серыю, як зрэнку вока. Тым больш у апошнія гады пад ягоны праект падстаўляла плячо дзяржвыдавецтва «Беларуская навука».

У ім нядаўна і выйшаў у свет **100-ы том залатой бібліятэкі** – збор твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, аўтара несмяротнай «Пінскай шляхты».

На маёй паліцы стаіць увесь «Беларускі кнігазбор». Я гляджу на яго і думаю: беларус пры патрэбе і адзін у полі воін. А двое – дык проста непераможны атрад. А яшчэ мне думаецца, што абаронная сцяна Беларусі збудавана з кніг. З тысяч і мільёнаў кніг, якія леглі ў тую сцяну замест цаглін і каменяў. І гэта самы трывалы абарончы мур у свеце, бо яго не падкапаеш і таранам не разаб'еш.

І няхай мур гэты, кажучы сучаснай мовай, віртуальны, ён усё ж можа абараніць нас ад варожых нашэсцяў. Бо самаўзводзіцца ён у кожным з нас дзякуючы прачытаным кнігам. Таму мы, беларусы, павінны ў кожнай кватэры-хаце мець па бібліятэцы, таму нечытанне кніг мяжуе для нас з нацыянальным злачынствам.

Рыцар беларускай кнігі Кастусь Цвірка гэта зразумеў даўно. І ўзводзіць найтрывалейшую крэпасць, якая ўмацоўвае ахоўную сцяну Беларусі. Збудавана пакуль палова крэпасці. Хай жа яна хутчэй дабудоўваецца – пры народным і дзяржаўным спрыянні!

ДЕЛА ЖИТЕЙСКИЕ

# Оптимизм – лучшее средство омоложения

*Почему одни люди с годами становятся внешне даже интереснее, чем были в юности, а лица других быстро стареют?*

– Очень многое зависит не от генетики, а от мыслей человека, – уверена психолог **Анетта ОРЛОВА**. – Люди с внутренним оптимизмом, позитивом, те, кто хорошо относится к другим и, как следствие, к самому себе, – они, взрослея, выглядят великолепно. Конечно, жизнь свое берет и старость наступает, но она проходит совсем по другому типу: нет явного опущения мышц, когда все лицо будто сползает вниз. А вот если внутри много грусти, обиды, гнева – это отражается и на внешности. Кожа – рельеф нашей жизни. Поэтому ее тонус очень зависит от настроя самого человека.

Безусловно, жизнь у людей складывается по-разному – кого-то она балует, а кого-то не щадит. Пережитые травмы, тяжелые события старят быстрее. Но как долго человек будет находиться в подавленном состоянии, зависит от него самого. Оптимизм, веселый нрав очень омолаживают.



Сохранять радостный взгляд на жизнь помогает всё, что действует на вас позитивно: спорт, посещение интересных мероприятий, искусство, приятное общение с друзьями, которые повышают, а не понижают вашу самооценку. Запомните: ваш внешний вид улучшается от всего положительного. И наоборот: всё негативное оставляет «отметины» на рельефе кожи.

Есть отдельная категория людей, которые «не чувствуют момента» и из молодости сразу впадают в какое-то старческое слабоумие: они настолько хотят быть молодыми, что теряют грань между реальностью и мечтами, пытаясь в 50 лет выглядеть 20-летними. Это и несоответствующая одежда, макияж, украшения. Такой человек, может, и выглядит в своих глазах моложе, но в глазах окружающих смотрится смешно, его зачастую не воспринимают всерьез. А ведь можно красиво проживать любой возраст. Красиво стареть – это искусство.

Самый хороший вариант – когда человек находится в гармонии с собой и со своим телом, тогда его психологический возраст оказывается немножко (!) меньше, чем биологический.

Но это требует определенных усилий. Если вы поздно ложитесь и, как следствие, не получаете полноценного отдыха, злоупотребляете сладким, жирным, соленым, не пьете достаточного количества воды, не двигаетесь, не идете к врачу, когда чувствуете себя плохо, – это, может быть, и не сразу, но скажется на вашем здоровье, настроении, работоспособности.

Ошибочно полагать, что физическое стоит на ступень ниже психологического. На самом деле все взаимосвязано. И чтобы с возрастом выглядеть хорошо, не игнорируйте потребности своего тела. Тогда и оно ответит вам благодарностью…

ФАКТ

# Заражаются ВИЧ в основном люди старше 30 лет

В Солигорском районе за 10 месяцев текущего года новые случаи инфицирования вирусом иммунодефицита человека (ВИЧ) выявлены у 106 человек. Показатель заболеваемости составил 78,9 случая на 100 тысяч населения. Большинство вновь выявленных носителей ВИЧ – люди старше 30 лет (в основном от 35 до 39).

61,32 процента вновь выявленных инфицированных заразились во время гетеросексуальных контактов. Через внутривенное введение наркотических средств получили ВИЧ 36,79 процента. Еще 0,94 процента были инфицированы при гомосексуальных связях. Более половины тех, у кого обнаружили ВИЧ, – это рабочие и служащие Солигорска.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ЧУЛІ?

# У Мінску прададуць канфіскаваную кватэру

*Аўкцыён адбудзецца 19 снежня. Пачатковы кошт лота – 80 тысяч 109 рублёў.*

Аб'ява аб продажы канфіскаванай двухпакаёвай кватэры, якая знаходзіцца ў Заводскім раёне Мінска на вуліцы Шышкіна, з'явілася на сайце гандлёвага дома «Усходні» – прадпрыемства, што займаецца продажам канфіскаваных рэчаў і аб'ектаў. Шмат хто ведае «Усходні» як арганізатара правядзення аўкцыёну канфіскаваных у грамадзян Беларусі машын. Напрыклад, толькі з 1 па 15 лістапада гандлёвы дом прадаў 56 такіх аўтамабіляў.

Што тычыцца кватэры, то, як распавялі супрацоўнікі «Усходняга», падобныя аўкцыёны – з'ява рэдкая.

Кватэра, якая выстаўлена на аўкцыён, мае плошчу 47,9 квадратнага метра. То бок за 1 кв. метр просяць 1,6 тысячы рублёў, што для сталіцы нямнога. Але, улічваючы месцазнаходжанне жылля, усё ж такі і нямала. Тым больш што кватэра прадаецца без рамонту. *«Калі на аўкцыёне будзе толькі адзін заяўнік, ён зможа купіць кватэру па пачатковым коште плюс пяць працэнтаў. Калі ж заяўнікаў будзе некалькі, то кошт яны вызначаць паміж сабою»*, – удакладнілі ва ўпраўленні па рэалізацыі нерухомасці гандлёвага дома «Усходні».

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
26 ЛІСТАПАДА 2019 г.

«ЗВЁЗДЫ» – В ГОСТЯХ

## Ванесса КОЛОДИНСКАЯ:
# «Врачи мне сказали: спорт только после операции…»

*Чемпионка мира по вольной борьбе рассказала о себе, своей семье и о том, что в этой жизни приходится бороться не только на ковре.*

Если не знать, никогда не скажешь, что эта хрупкая девушка – чемпионка мира в виде спорта, который обычно называют мужским.

Но это на ковре она беспощадная. А в жизни – женственная, улыбчивая и откровенная…

– Когда твои родители тренеры, а спорт для них – работа и жизнь, то, как правило, и яблоки от яблони недалеко падают, – говорит Ванесса. – Хотя мои старшие брат и сестра ходили в музыкальную школу заниматься фортепиано, мне в детстве предлагали учиться играть на скрипке, но… Честно вам скажу: не захотела. А мама и не настаивала, потому что видела, что меня больше тянет к спорту.

**– Детство прошло в спортзале?**

– Папа и мама работали в одном зале в Бобруйске, поэтому вместе с ними была и я. Спала на матах или в коляске в зале.

Кстати, это, наверное, передается на генном уровне, потому что мой маленький сын Савелий, можно сказать, тоже растет в зале. Только зал другой – борцовский, а не гимнастический.

**– А почему ваши родители не настояли, чтобы дочь занималась гимнастикой?**

– Я занималась этим видом спорта, но так получилось, что мама и отец развелись. Папа решил уехать на работу в Австралию, и мама очень боялась, что он заберет меня с собой. Ушла с работы, а меня решила «командировать» в борьбу к знакомому тренеру.

А папа отправился в Австралию в 2004 году. Был достигнут своеобразный компромисс – мы с сестрой остались с мамой в Бобруйске, а брат Стас отправился с отцом на Зеленый континент.

**– Не было психологической травмы после развода родителей?**

– У нас в семье всегда было принято, что дети не влезают в отношения старших, поэтому я приняла ситуацию такой, какая она есть. К тому же дети ничего изменить не могли.

**– Отец не был против, чтобы вы занимались борьбой?**

– Он был не против, но отдавал предпочтение дзюдо. В душе, конечно, он видел меня в гимнастике, хотя, как видим, обстоятельства сложились иначе.

**– Валерий Викентьевич помогал семье из Австралии?**

– Конечно, каждый месяц папа присылал нам 300–400 долларов, в те времена в Беларуси это были достаточно большие деньги. По сути, на это мы и жили, потому что мама уже не работала, а подработка хореографом в детском саду большого дохода не приносила.

В 48 лет ей и вовсе дали 3-ю группу инвалидности – напомнили о себе старые спортивные травмы. В бытность гимнасткой, выполняя упражнение на бревне, получила травму ноги. Она продолжала тренироваться, сустав стирался… В Москве сделали операцию по его замене, но с возрастом все это проявилось. Маме могли и первую группу инвалидности дать, но она не рабочая.

Так что жизнь была небезоблачная. Я тренировалась, параллельно мы с сестрой ходили в танцевальную студию. Наверное, у меня были все-таки другие мечтания и планы, нежели борьба, но тренироваться продолжала. К тому же на тренировках я выделялась среди других ровесников. Все-таки сказывались занятия гимнастикой. У меня была хорошая физическая подготовка, координация тела, пластика. Это давало большое преимущество, и на этом фоне я выигрывала. А когда стала побеждать на турнирах, нужно было делать выбор: танцы или борьба. За двумя зайцами гоняться не имело смысла.



**– Одним словом, принесли танцы в жертву…**

– У каждого свой путь. Я выбрала спорт, а вот моя сестра позже открыла в Бобруйске свою студию современного спортивного танца.

**– Свою первую зарплату помните?**

– В 15 лет удачно выступила на чемпионате Европы: приз был около 300 долларов, и стала получать ежемесячно стипендию от Президентского спортивного клуба. Это были для меня огромные деньги! Я могла не просить у мамы на карманные расходы, чтобы сходить в кафе, куда-нибудь еще с подружками.

**– Насмешек от друзей не было, что, мол, девочка занимается борьбой?**

– Знаете, я даже не афишировала в школе, чем увлекаюсь. Все знали, что занимаюсь спортом, но не более того. Некоторые были уверены, что я гимнастка, потому что комплекция у меня была соответствующая. Когда твой вес около 40 килограммов, то никто и не подумает, что ты – борец.

Многие и сейчас изумляются: «Ты – чемпионка мира по вольной борьбе?! Но этого не может быть!» У нас же в обществе существует стереотип: если девушка занимается борьбой, то это должно быть какое-то накачанное бесформенное существо. К счастью, это ложное представление.

**– У вас есть свой диетолог?**

– А он мне не нужен. Если появляются пару лишних кило, а перед стартом нужно согнать вес, тогда иду в баню. Если более трех килограммов нужно убрать, тогда уже корректирую питание, но это примерно за 2–3 дня до соревнований. Потому что большой жировой массы нет, и если садиться на диету задолго до старта, то мышцы истощаются, и ты становишься слабее.

А вообще, кроме овощей и фруктов я могу позволить себе и сладкое. Если мне предлагают сделать выбор между куском мяса и шоколадной плиткой (это конкретно на период сгонки веса перед стартом), то выберу шоколад. Лучше я получу свою порцию «гормона удовольствия» и спокойно пойду тренироваться.



**– Наверное, приятно стать чемпионкой мира в 19 лет…**

– Эйфории у меня не наблюдалось. И честно вам скажу: я не придавала большого значения победам, хотя побеждать всегда приятно. У меня была задача победить конкретных соперников, а не обязательно завоевать золото. Выиграла – и хорошо.

**– А на мировом первенстве спортсмены получают за победу большие призовые?**

– В общей сложности, если учесть премиальные и от спонсоров, и от Министерства спорта, получилось около 9 тысяч долларов. Говорят, что это месячная зарплата некоторых хоккеистов минского «Динамо».

Но все в этой жизни относительно. С одной стороны, немного обидно, что твой труд не очень высоко котируется, а с другой – понимаешь, что некоторые в нашей стране такие деньги никогда и не заработают, хотя пашут на каком-нибудь заводе не меньше.

**– В скором времени после чемпионата мира вы ушли в декретный отпуск…**

– Честно говоря, ребенка в то время я не планировала, но так уж сложилось. Я потом задавала себе вопрос: как я вообще могла забеременеть, когда на это даже намеков не было?!

Сначала была в шоке и даже в некоторой растерянности. В сентябре выиграла чемпионат мира, только начала делать карьеру в спорте и вдруг… В феврале, в начале подготовки к чемпионату Европы, узнаю о своей беременности. Нужно рожать, забыть про спорт, тренировки, соревнования. Скрывать свое положение не имело смысла, я все честно рассказала тренеру.

**– В обморок не упал?**

– Состояние Олега Яковлевича Райхлина было близко к этому. Но, знаете, у тренера и его учеников, наверное, все-таки есть какая-то связь на подсознательном уровне, потому что, когда я пришла к наставнику, он посмотрел мне в глаза и сразу сказал: «Ванесса, только не говори мне, что ты беременна».

А вообще, тренер нормально воспринял ситуацию. У нас тогда был сбор в Стайках, готовились к чемпионату Европы, но после разговора я сразу поехала домой. Нужно было решать уже другие вопросы – становиться на учет в женскую консультацию, готовиться стать мамой.

Но и во время беременности я продолжала ходить в тренажерный зал, на аквааэробику, плавание. Нужно было, чтобы мышцы работали при минимальной нагрузке на позвоночник.

**– Родители поддерживали?**

– Естественно, как раз и папа прилетел из Австралии. Он меня и тренировал сразу же после того, как родился Савелий, помогал восстанавливать организм.

Одним словом, все поддерживали. Только брат Стас нервничал по поводу того, что я «из-за своей легкомысленности» прервала спортивную карьеру.

Гражданский муж, с которым мы позже разошлись, тоже помогал. Уже через месяц после родов начала тренироваться, а когда Саве было девять месяцев, оставляла ребенка дома и ездила на сборы.

Сложно было возвращаться в спорт психологически. Определенную форму я, безусловно, набрала, но постоянно работать с прежней нагрузкой не могла. Голова помнит, что нужно делать, а тело как бы не подчиняется.

**– Какой был самый сложный период после того, как родили сына?**

– После родов я постепенно возвращалась на прежний уровень. Прошла обследование в РНПЦ спорта. Во время планового осмотра сдала все анализы. Неожиданно УЗИ показало, что у меня увеличена щитовидная железа.

В 2015 году я еще завоевала бронзу на чемпионате Европы до 23 лет, начала готовиться к I Европейским играм в Баку. Но стала плохо себя чувствовать, теряла в весе. Повторно сдала анализы, вердикт меня просто шокировал: не годна для занятий спортом! Мол, после родов произошел гормональный сбой. Врач сказал: «Звони тренерам, говори, что все занятия и соревнования отменяются».

А для меня это полный шок, потому что мы в то время как раз готовились к чемпионату мира в Лас-Вегасе, где разыгрывались олимпийские лицензии на Игры-2016.

Врачи выписали мне лекарства, велели пройти осмотр через месяц, затем снова через месяц. При этом разные врачи давали разные советы. Но в итоге все пришли к однозначному выводу: обязательно нужно удалять щитовидку.

«Это единственный для тебя шанс вернуться в большой спорт, – говорили мне. – Сделаешь операцию, проверим после этого уровень гормонов: если все нормально, получишь допуск для занятий спортом».

**– Не согласились?**

– Естественно, я отказалась от операции. Может, медики и решили, что у меня есть лишние органы, но у меня другое мнение на этот счет. К тому же я понимала, что после удаления щитовидной железы дорога в спорт мне будет точно закрыта.

Позже я поняла, что врачи, скорее всего, перестраховывались. Они считали, что при нарушении обмена веществ идет дополнительная нагрузка на сердце и оно может не выдержать. Хотя кардиограмма была в норме.

Одним словом, я не стала ждать милости от природы, а решила действовать сама. По совету знакомых обратилась к ведущему специалисту-эндокринологу профессору Ларисе Ивановне Даниловой. И вы не поверите – она мне помогла без всякой операции! Разработала такую формулу лечения, которая дала положительный результат. Гормоны пришли в норму, а в марте 2016 года мне разрешили приступить к тренировкам. И уже через год я стала чемпионкой Европы!

**– Одним словом, у вас вся жизнь – борьба…**

– Я очень рада тому, что для меня всё так закончилось, хотя, как уже говорила, на операцию никогда не согласилась бы. Лучше бы ушла из спорта.

**– Сына уже приобщаете к спорту?**

– Сейчас ему 6 лет, но уже два года он занимается гимнастикой, а в школе еще и секцию дзюдо посещает. Идет за мамой…

**Алесь СИВЫЙ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Калі хочаш лепшай долі –
## Дапамажы «Народнай Волі».
## У свеце ПРАЎДЫ жыць імкніся,
## На газету падпішыся.



Зрабіць гэта можна, не выходзячы з дому, праз інтэрнэт. У такім выпадку Вам трэба на сайце Belpressa.by запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату праз сістэму Webpay банкаўскай карткай ці праз сістэму «Расчет» (АРІП). У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт «Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка». Для аплаты ўвядзіце нумар рахунка, атрыманага на сайце Belpressa.by. Зрабіце плацеж.

Нагадаем, што падпіска на першую палову 2020 года ў поўным разгары. А каму неабходна прадоўжыць яе яшчэ на снежань, то зрабіце гэта, калі ласка, да **27 лістапада**. Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні і ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

**Разам мы – сіла!!!**

ФУТБОЛ

# «Гуляйце, балдзейце!..»

*У 29-м туры першынства Беларусі па футболе залатыя медалі датэрмінова і ўпершыню ў гісторыі клуба заваявала брэсцкае «Дынама».*

Нагадаем, што трынаццаць сезонаў запар першымі ў чэмпіянаце былі футбалісты барысаўскага БАТЭ, але зараз у барысаўчан толькі серабро. Бронзавыя медалі – у салігорскага «Шахцёра».

Пасля матча каманду з Брэста павіншаваў сын беларускага кіраўніка Віктар Лукашэнка, які з'яўляецца першым віцэ-прэзідэнтам НАК Беларусі.

*«З перамогай вас, дай Бог вам здароўя!* – эмацыянальна выказаўся ён. – *І гуляйце, адпачывайце, балдзейце. А вось гэтыя кілішкі – гэта гарэлка прэзідэнта. Яна нідзе не прадаецца. Гэта асабіста для вашай каманды ад нас усіх».*

Вынікі матчаў 29-га тура: «Дынама» (Брэст) – «Віцебск» – 1:0, «Мінск» – «Шахцёр» (Салігорск) – 1:0, БАТЭ – «Дынама» (Мінск) – 3:0, «Нёман» (Гродна) – «Энергетык-БДУ» (Мінск) – 1:1, «Славія» (Мазыр) – «Іслач» (Мінскі раён) – 2:0, «Дняпро» (Магілёў) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 2:1, «Гарадзея» – «Гомель» – 2:3, «Тарпеда» (Мінск) – «Слуцк» – 0:3.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 29 | 22 | 6 | 1 | 67–21 | 72 |
| БАТЭ | 29 | 21 | 4 | 4 | 59–20 | 67 |
| Шахцёр | 29 | 19 | 5 | 5 | 58–21 | 62 |
| Дынама (Мн) | 29 | 15 | 5 | 9 | 42–36 | 50 |
| Іслач | 29 | 13 | 7 | 9 | 41–35 | 46 |
| Тарпеда-БелАЗ | 29 | 13 | 6 | 10 | 40–34 | 45 |
| Гарадзея | 29 | 12 | 8 | 9 | 31–28 | 44 |
| Нёман | 29 | 10 | 6 | 13 | 27–35 | 36 |
| Мінск | 29 | 9 | 8 | 12 | 35–43 | 35 |
| Славія | 29 | 9 | 7 | 13 | 33–40 | 34 |
| Віцебск | 29 | 8 | 7 | 14 | 24–37 | 31 |
| Слуцк | 29 | 8 | 7 | 14 | 27–45 | 31 |
| Дняпро | 29 | 8 | 6 | 15 | 29–37 | 30 |
| Энергетык-БДУ | 29 | 7 | 9 | 13 | 47–63 | 30 |
| Гомель | 29 | 6 | 8 | 15 | 41–50 | 26 |
| Тарпеда | 29 | 1 | 3 | 25 | 4–60 | 6 |

КРЫЖАВАНКА

# Зяць любіць узяць, цешча любіць даць




**Па гарызанталі:** 1.Жаніцца – не … абуць (прык.). 4.Зяць на … – цешча за пірог (прык.). 6. … – першы мужчына, у якога не было цешчы (жарт.). 9.«Цешча – падатковы … мужчынскіх задавальненняў» (невядомы аўтар). 10.Круты бераг. 11.Вокліч, які ўжываецца для абазначэння гуку пры пацалунку. 14.У цешчы зяцёк – любімы … (прык.). 16.Свату першая чарка і першая … (прык.). 17.Дзе зяць паганы, там цешчу запрагаюць у … (прык.). 18.Вялікі майстар сваёй справы. 19.Вясельная … – парадак правядзення вяселля. 22.Смачны цешчын …, ды адрыжка доўга трымаецца (жарт.). 23.Зяць любіць узяць, … любіць чэсць, цешча любіць даць (прык.). 24.Разявака (разм).

**Па вертыкалі:** 1.Кастрычнік зямлю беліць, а … залоціць (прык.). 2.«Больш за ўсё насцярожваюць дзве рэчы: гром сярод яснага неба і цешча, якая прапануе зяцю піва на …» (невядомы аўтар). 3.Хто на … сеў, таму не да жартаў (прык.). 5. «…!» – вокліч пры здзіўленні, захапленні. 7.Тканіна са штучнага шоўку. 8.Хараство, прыгажосць. 12.Аматарка кніг. 13.«Выдам цешчу замуж. Магчымы … або абмен» (аб'ява на слупе). 15.«У хаціне вечарына, // Песні, …, тарарам. // Задаюць настрой сябрыне // Муха, тля і таракан» (прыпеўка). 17.«… сям'ёй, а цешчу – на дачу» (жарт.). 20.Сіла, магутнасць. 21.«Жаніхом калі хадзіў, // Цешча была, як ліса. // А цяпер гудзіць і джаліць, // Як сапраўдная …» (прыпеўка).

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Лапаць. 4.Парог. 6.Адам. 9.Інспектар. 10.Яр. 11.Цмок. 14.Сынок. 16.Палка. 18.Ас. 19.Цырымонія. 22.Абед. 23.Цесць. 24.Зявака.

**Па вертыкалі:** 1.Лес. 2.Пахмелле. 3.Цвік. 5.«Але!». 7.Маракен. 8.Краса. 12.Кніжніца. 13.Даплата. 15.Танцы. 17.Сям'я. 20.Моц. 21.Аса.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г.Дзяржынск.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.11.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 007 экз. Заказ № 3853.

9 772071 964000 19093